● выдаецца са жніўня 1917 г.
БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
● кошт 3000 рублёў
15 кастрычніка 1998 г. чацвер, № 204(23555)

# ЗВЯЗДА

# Перад Маці мы здымаем капялюш!

## Беларуская жанчына ўмее цярпець, але яна вартая лепшага жыцця

**14 кастрычніка — Дзень маці. Гэтае свята трэці раз адзначалася, як дзяржаўнае. Мы яшчэ не прызвычаіліся да яго. Бадай, толькі многадзетныя маці добра ведаюць дату. Беларускі саюз жанчын разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі імкнецца зрабіць свята сапраўды нацыянальным. Каб кожная маці адчула, што грамадству вельмі патрэбна яе штодзённая хатняя праца, здольнасць любіць і выхоўваць дзяцей, што быць маці — гэта не толькі цяжар, але і гонар. «Тыдзень маці» праходзіў ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах рэспублікі. У панядзелак адкрыўся ў Мінску крызісны рэабілітацыйны цэнтр для жанчын, якія зведвалі ў сваім жыцці гвалт. У Свята-Духавым кафедральным саборы адбыўся Падзячны малебен усім маці.**

**Аб уласным мацярынстве і жаночым лёсе ўвогуле дала эксклюзіўнае інтэрв'ю «Звяздзе» старшыня Беларускага саюза жанчын, намеснік Старшыні Савета Рэспублікі Тамара ДУДКО.**




*— Тамара Мікалаеўна, які вы чалавек па натуры?*

— Я калектыўны чалавек. Са школьнага ўзросту мяне вельмі хвалявала нешта агульнае.

*— Ці былі потым расчараванні?*

— Было. Боль. Непрызнанне. Ці ўдар. Ці непрыманне. Было. Але гэта толькі дае вопыт.

*— Аднак пачыналі вы свой жыццёвы шлях не з грамадскай дзейнасці. Што прымусіла вас стаць змагаром за правы жанчын?*

— Мяне выбралі. Тады вырашыла, што мяне ўнізілі. Прынізілі нават. Таму што я ў той час была старшынёй Партызанскага райвыканкама. А да гэтага — генеральным дырэктарам буйнога абласнога аб'яднання піва-безалкагольнай прамысловасці. Гэта была вельмі высокая пасада. Дырэктар самага буйнога аб'яднання ў Саюзе.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**



**Учарашні дзень — Дзень маці — Зінаіда Васільеўна Прыходзька можа па поўнаму праву лічыць сваім маленькім святам — у іх сям'і 15 дзяцей.**

Зрэшты, наша газета расказвала пра сям'ю Прыходзькаў, якая жыве ў пасёлку Высокае Кармянскага раёна. Учора ж мы проста патэлефанавалі Зінаідзе Васільеўне і павіншавалі са святам.

— Вельмі прыемна ад вас гэта чуць, бо акрамя вас ды настаўнікаў мясцовай школы мяне больш ніхто і не павіншаваў — ні з райвыканкама, ні з вобласці, — расказала карэспандэнту «Звязды» маці-гераіня. — Хоць, па вялікаму рахунку, я ні на кога не крыўдую. Зараз вось восем маіх дзяцей знаходзяцца па лініі фонду «Здароўе» ў санаторыі «Свіслач», сама пайшла на працу ў калгас даяркай, 19 кастрычніка малому Сашку споўніцца 9 месяцаў... Так што жыццё, хоць і нялёгкае, але працягваецца.

— Можа ўжо з Аляксеем Мікалаевічам і пра шаснаццатага падумваеце?..

— Ды не. (Смяецца.) Мабыць, пакуль што хопіць.

— Тады яшчэ раз са святам!

Дарэчы, як нам стала вядома, у Ганцавіцкім раёне ў сям'і Марыі і Аркадзя Вечараў аж 17 дзяцей — 10 хлопцаў і 7 дзяўчат. Ды яшчэ 63 унукі. Вось гэта паказчык! Хоць, зрэшты, мы ад шчырага сэрца віншуем абсалютна ўсіх Маці і, як кажуць, здымаем перад імі капялюш!

**Алесь СІВЫ.**

***На фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА (БелТА) — сям'я Прыходзькаў.***

## ВІНШАВАННЕ ЖАНЧЫНАМ У СУВЯЗІ З ДНЁМ МАЦІ

Дарагія жанчыны!

Шчыра і сардэчна віншую ўсіх вас са святам — Днём маці. Гэта свята ўстаноўлена ў нашай краіне ў гонар самых блізкіх і любімых намі людзей. Светлы вобраз маці заўсёды быў і застаецца ўвасабленнем душэўнай цеплыні і чалавечай шчодрасці. Яе ўнутраны свет — крыніца маральнасці грамадзяніна і патрыёта, творцы і стваральніка.

Ужо з першым дыханнем акружае кожнага з нас пяшчотная матчына любоў. Мудрасць і дабрыня маці даюць нам веру ў жыццё і надзею на лепшае.

Маці, як і Радзіма, мае патрэбу ў любові ў адказ, клопаце і абароне. Усведамляючы гэта, дзяржава робіць усё магчымае па змякчэнню сацыяльных праблем, паляпшэнню становішча жанчын, пашырэнню іх удзелу ва ўсіх сферах вытворчага і грамадскага жыцця.

Асаблівыя клопаты ў краіне адрасаваны мнагадзетным сем'ям, адзінокім і састарэлым людзям, сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў.

Выключна вялікая роля жанчын у духоўным умацаванні нацыі. Я горача падтрымаў высакародную ініцыятыву Беларускага саюза жанчын, Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў правесці гэты Дзень маці пад дэвізам «Жанчыны — за духоўнае адраджэнне Беларусі». Гэта дало магчымасць арганізаваць па ўсёй рэспубліцы мерапрыемствы, накіраваныя на аздараўленне і згуртаванне нацыі.

Са святам вас, паважаныя маці! Жадаю моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту вам і вашым сем'ям!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*14 кастрычніка 1998 года.*

## «ЗВЯЗДА» — ЧЫТАЧ: ЁСЦЬ КАНТАКТ!

**Сённяшні нумар «Звязды», які вы трымаеце ў руках, можна было б назваць эксперыментальным: ён амаль цалкам складзены з матэрыялаў, напісаных на аснове пісьмаў і зваротаў нашых чытачоў.**

Нашы пастаянныя падпісчыкі ведаюць, што «Звязда» ніколі не пакідае чытацкія допісы без увагі: амаль у кожным нумары змяшчаюцца рубрыкі або матэрыялы па пісьмах. Нярэдка з'яўляюцца ў газеце і тэматычныя старонкі. А вось тэматычны выпуск зроблены ўпершыню. Мы ні ў якім разе не ставілі перад сабой мэту спецыяльна выпускаць такі нумар. Проста ў газеты з'явіліся новыя сябры-падпісчыкі, і, адпаведна, павялічылася рэдакцыйная пошта. Што нас, супрацоўнікаў «Звязды», вельмі радуе.

Сёння вы зможаце пачытаць матэрыялы з «выязной прыёмнай», вашы пытанні і кампетэнтныя адказы на іх у рубрыцы «Пытальнік», журналісцкія расследаванні, падставай да якіх паслужылі вашы пісьмы, творчасць нашых чытачоў.

Спадзяёмся, што эксперымент пройдзе паспяхова і атрымае працяг. Зрэшты, гэта ўжо залежыць ад вас, шаноўныя чытачы.

Пішыце нам і памятайце: «Звязда» заўсёды ў адной камандзе са сваімі чытачамі.

## У ЗУБКАХ ЦЁПЛА І СВЕТЛА

Вёску Зубкі Клецкага раёна, мяркую, добрым словам успамінаюць многія нашы чытачы. Справа ў тым, што тут знаходзіцца адзін з самых вялікіх і знакамітых у рэспубліцы гадавальнікаў. Адсюль па ўсёй краіне разыходзяцца яблынькі, слівы, парэчкі, маліна, вішні. Каля ста тысяч саджанцаў у год рэалізоўвае саўгас «Зубкі». Вялікія сады і ў саміх вяскоўцаў.

— Апошнім часам больш цікавяцца саджанцамі прыватнікі, — расказваў галоўны аграном саўгаса Аляксандр Шарафановіч.

**(Заканчэнне на 7-й стар.)**



**НА ЗДЫМКУ: Васіль Аляксеевіч, Ніна Уладзіміраўна РАК і ўнук Валянцін з «жывым прызам» «Звязды».**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**




**Глядзіце 3-ю стар.**

## УСІМІ ПОСПЕХАМІ Ў ГРАМАДСТВЕ МЫ АБАВЯЗАНЫ ЖАНЧЫНАМ

Ужо стала традыцыяй, што ў Дзень маці кіраўнікі нашага ўрада сустракаюцца з прадстаўніцамі прыгожай палавіны чалавецтва. Учора іх прымаў віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін. На сустрэчу ў Дом ўрада, былі запрошаны маці з усіх рэгіёнаў краіны.

«Мы ганарымся, што ў нас скарачаецца беспрацоўе, захоўваецца мір і стабільнасць, — сказаў Уладзімір Замяталін. — І галоўным стрыжнем, на якім грунтуюцца гэтыя скромныя поспехі, з'яўляюцца жанчыны».

**БЕЛТА.**

ЗВЯЗДА
15 кастрычніка 1998 г.
3

## ЗДАРОЎЕ ПАЧЫНАЕЦЦА Ў СЯМ'І

Цэлы тыдзень у Гомелі будзе праходзіць акцыя «Сям'я, здароўе, будучае», якую арганізавалі ўпраўленне аховы здароўя аблвыканкама і абласны цэнтр здароўя.

Пачалася яна з сустрэч спецыялістаў лячэбна-прафілактычных устаноў горада з насельніцтвам на прадпрыемствах, установах, школах, навучальных установах, у маладзёжных калектывах. Арганізавана таксама работа перасовачнага інфармацыйнага комплексу, дзе людзі атрымліваюць бясплатныя кансультацыі ўрачоў па прафілактыцы і лячэнню розных захворванняў, наладжана дэманстрацыя кінавідэафільмаў па тэматыцы здаровага ладу жыцця.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**





# ЁСЦЬ ТАКІ МАЛЕНЬКІ ГОРАД — ЖАЛУДОК



**НЕ ГОРАД і не вёска, а... Дзякуй Богу, што захавалася дакладнае абазначэнне такога кшталту паселішчаў: мястэчка. Гэта адно з соцень беларускіх мястэчак. Тут ёсць стары храм — каталіцкі. І новаадбудаваны — праваслаўны. У памяць пра колішніх абавязковых насельнікаў — камяні на забытых яўрэйскіх могілках.**

**Базар, вакзал, пошта, закусачная і адміністрацыя — усё побач, на адным пляцы — галоўнай плошчы.**

**Я ехаў са Шчучына да высокіх нёманскіх берагоў. Шлях ляжаў праз Жалудок, праз яго плошчу, паўз храмы... Захацелася спыніць машыну, пабыць сярод людзей старажытнага мястэчка з крыху незвычайнай назвай.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
***Шчучынскі раён.***
**Фота аўтара.**





## БЕЛАРУСКАЯ ЖАНЧЫНА ЎМЕЕ ЦЯРПЕЦЬ, АЛЕ ЯНА ВАРТАЯ ЛЕПШАГА ЖЫЦЦЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Да таго ж, для мяне гэта было нязвыкла. Я працавала сярод мужчын. Я прымала іх правілы гульні. І я супраціўлялася выбранню. Потым я акунулася ў жаночую сферу, пранікլася болем дзіцячых дамоў, ідэяй раўнапраўя жанчын, перагледзела сваё жыццё і зразумела, што гэта — маё. Пазней я доўга служыла як дэпутат.

Акрамя таго, я зразумела, што не займацца гэтым немагчыма. Вунь якія моцныя жанчыны-спікеры парламентаў у Швецыі, Нарвегіі, Германіі, Фінляндыі... У іх хапае мужнасці не толькі падтрымліваць высокі рэйтынг сярод дзеячаў, але і дапамагаць маладым нявопытным жанчынам у палітыцы. Я зразумела: гэта і мой доўг таксама.

**— Ці ёсць у вас дзеці?**

— Так. У мяне ўжо дарослыя дзеці. У мяне ёсць унучка. Усе мае сямейнікі падзяляюць мае погляды. Хаця я ніколі шмат не займалася сваімі дзецьмі. Яны выхоўваліся на гіпнозе. Гэты метад заслугоўвае вялікай увагі.

**— Ніколі не чула.**

— Трэба выхоўваць уласным прыкладам. Нельга апякаць дзяцей. Нельга сядзець з імі над урокамі. Гэтым самым бярэм на сябе адказнасць. Дзіця перастае жыць сваім жыццём. Яно прыстасоўваецца да маці ці таты, якія вучаць з ім урокі. Так нічога не атрымаецца, так псуюць дзяцей. У мяне для гэтага не было часу, і гэта было выратаваннем. Я не была ні на адным бальнічным лісце і ні дня ў дэкрэтным водпуску.

Калі майму другому дзіцяці было тры месяцы, я ўжо была галоўным інжынерам піўзавода. А муж мой быў у арміі на тэрміновай службе. У мяне не было сродкаў для існавання. Працу на дом мне прывезлі, калі сыну было паўтара месяца. І гэта чыстая праўда. Я працавала начамі. У мяне быў пакой на агульнай кухні за горадам. Там быў рамонт, збіраліся толькі рабіць ацяпленне, у сценах былі прабітыя дзіркі для труб і па дому хадзілі вожыкі, палявыя мышы, скакалі лягушкі. Я працавала, а яны блыталіся пад нагамі. У такой абстаноўцы выраслі мае дзеці. І дзяцей гэта не сапсавала.

**— Вы з дрыжыкамі прыгадваеце той час або з настальгіяй?**

— Ведаеце, я той час пражыла як на аўтамаце, хацелася выстаяць. Я магла засынаць стоячы, так стамлялася. Двое маленькіх дзетак. Сын толькі нарадзіўся, а дачцэ — два с паловай гады. Да пасады галоўнага інжынера я не была падрыхтаваная. Па характару — так. Па ведах — не. І трэба было працаваць над сабой.

Майце на ўвазе, кожны чалавек сам не ведае, што ён можа. А жанчына — тым больш. Патэнцыял у яе вельмі вялікі. Яна можа, аказваецца, усё сумясціць і штодня працаваць над сабой. Адпавядаць пасадзе і дзень пры дні расці прафесійна, і быць маці дваіх дзяцей, і вырасціць дзяцей, блізкіх сабе па духу. Можа.

Могуць дапамагаць гадаваць суседскія старыя. З павагі да тваёй працы, да твайго ладу жыцця.

**— А родныя бабулі былі?**

— Былі. Вельмі хварэла мая маці. І вельмі хварэла ўжо маці мужа. І далёка мы жылі. Былі выпадкі, калі я хадзіла ў дом састарэлых, ён быў побач з заводам, шукаць на кожны наступны дзень новую сядзелку. Калі б не было таго перыяду, не было і гэтага.

**— А страшна вам было? Тады. Што нешта не паспееце.**

— Некалі было. А страшна, што не паспяваю, — заўсёды. У мяне зараз шмат абавязкаў. У тым ліку як дырэктара «Альвары».

— Я вельмі перажываю. Я імкнуся адпавядаць. Трэба быць больш арганізаванай, больш эфектыўнай. Глядзець у корань, а не распаўзацца па дробязях. Быць зразумелай. Пазбавіцца ад некаторых... Мужчынам здаецца, што жанчынам уласцівы нейкія слабасці. На самай справе, цяпер жа мужчыны больш гавораць і больш пляткараць. А дзелавыя жанчыны пазбаўляюцца гэтага. Умеюць нават плакаць у душы, таму што плакаць проста цяпер лічыцца мінусам для жанчыны.

**— А Вы плачаце проста?**

— Душа баліць. І так паплакаць таксама вельмі хацелася б, калі сказаць шчыра, але толькі няма калі. Бывае, адкладваю да лепшага часу, а той час потым усё не прыходзіць.

**— Вы ўжо дванаццаць гадоў працуеце ў Беларускім саюзе жанчын, вы вельмі добра ведаеце нашых суайчынніц, іх праблемы. Які ж, на ваш погляд, партрэт беларускай жанчыны?**

— Вой, я схіляю галаву перад беларускай жанчынай. Якія вы пытанні добрыя задаяце! Калі гаварыць аб зборным вобразе беларускі, я лічу (і, можа, было б лепш, каб гэтыя словы гучалі не ад жанчыны), што беларускую жанчыну глыбока шануюць усе. Беларуска сярод нават славянак выйграе тым, што яна больш цярпімая, больш маўклівая.

**— Хіба гэта добрая якасць?**

— Добрая. Гэта гаворыць аб сіле духу. Няхай мне даруюць усе, хто не згодны, я гатова спрачацца наконт таго, што беларуска на вельмі высокім узроўні менавіта па духоўным развіцці. Размова не ідзе аб усіх. Ёсць ужо гэтыя вось выключэнні, кепскія, саромныя для нас выключэнні, калі жанчына ламаецца, п'е, дзяцей кідае. Але грамадству таксама трэба паглядзець, «адкуль родам» гэтая болька.

Трэба зразумець, што жанчына вельмі перагружаная. Не кожная здолее вучыцца, працаваць, дзяцей гадаваць, жанчынай заставацца, пяшчотнай, і не аддаць мужа на бок. Усё гэта сумяшчаць — не кожнай хопіць сіл. Весці гэтую чараўніцкую кухню. Таму што абсалютна дакладна: «чарамі» беларусак харчуецца большасць дзяцей цяпер. Чарамі.

**— А ці не перашкаджае прыродная цярпімасць беларускам змагацца за лепшае жыццё?**

— Змагацца трэба ўмела. Лепш за ўсё так, каб гэта было непрыкметна. Інакш не прымуць. У Беларусі жанчына-баец нічога не даб'ецца. Гэта наша нацыянальная адметнасць. Тым не менш, змагацца з дыскрымінацыяй жанчын неабходна. Без вырашэння праблем узаемаадносінаў палоў не можа быць ніякага развіцця ў грамадстве. Прэзідэнт разумее гэта і даступнымі на сёння рычагамі карэкціруе становішча. А становішча сумнае. Жанчын сярод нашага насельніцтва больш за палову, большая частка прамысловасці таксама на жаночых плячах, а ў палітыцы жанчыны амаль не ўдзельнічаюць. Ці павінна так быць? На жаль, шмат таленавітых жанчын не ідуць у палітыку. Бо палітыка — гэта брудная справа. Там на цябе і нагавораць, і «распрануць». Але толькі жанчыны здольныя сапраўды абараніць і свае ўласныя інтарэсы і інтарэсы дзяцей, старых, інвалідаў. Тое, на што мужчынам, на жаль, уласціва забывацца.

**— Чаму тады дэвіз сённяшняга свята «Жанчыны — за духоўнае адраджэнне», а не за раўныя правы, скажам?**

— Таму што духоўнасць — гэта аснова, пачатак усяго.

**— Дзякуй Вам.**

**Інтэрв'ю падрыхтавала Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА.**

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем* ***Лідзію Мікалаеўну і Фёдара ПАЛАД'ЕВІЧА*** *Мязолевых з залатым вяселлем.*

*«Желаем бодрости душевной,*
*Успехов в жизни повседневной,*
*Здоровья крепкого всегда,*
*Не падать духом никогда».*

**Святлана і Яўген Мязолевы.**

*Сардэчна віншуем* ***Канстанціна Пятровіча КАВАЛЬКОВА*** *з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя і светлых радасных дзён.*

**Міша і Валянцін.**

*Віншуем з 45-годдзем любую жонку, мілую мамачку* ***Ніну Ахметаўну СТРУЖКО****. Жадаем здароўя, шчасця, кахання, поспехаў у жыцці і працы.*

**Муж, дзеці,** п. Сосны.

*Віншую дарагую матулю* ***Яніну Францаўну КАРКОЦКУЮ*** *з 50-годдзем. Жадаю здароўя, шчасця, дабрабыту і доўгіх гадоў жыцця.*

**Дачка Раіса.**

*Сардэчна віншуем з 55-годдзем нашу дарагую* ***Ганну Анатольеўну РАДКЕВІЧ*** *з в. Ст. Юрковічы Любанскага раёна. Жадаем аптымізму, бадзёрасці і добрага настрою. Мы цябе вельмі любім.*

**Муж, дзеці, унукі.**

*Дарагі наш Міхаіл Канстанцінавіч Салавей. Прымі нашыя самыя шчырыя і цёплыя віншаванні з нагоды дня нараджэння. Жадаем святочнага настрою, моцнага здароўя, поспехаў у працы і сямейнага дабрабыту.*

**Родныя** з в. Туча Клецкага раёна.

**Згубленае пасведчанне ўдзельніка ВАВ серыі А № 903499, выдадзенае на імя ГЕРАСІМЕНК2І Максіма Васільевіча, лічыць несапраўдным.**

# ВОСТРАЎ ЗАМОШША, ЯКОГА АМАЛЬ НЯМА

Прыехаўшы ў Лунінец, мы з калегам проста «накінуліся» на рэдактара мясцовай «раёнкі»: пра што тут можна напісаць? Калега, чалавек больш дасведчаны ў справах гэтага краю, кінуў пробны шар: «Кажуць, тут дзесьці ў вёсцы адны ўкраінцы жывуць». Яго тут жа расчаравалі: «Не, гэта ў суседзяў, на Століншчыне». І адразу ж суцешылі: «Затое ў нас ёсць польская вёсачка...» Напэўна, у маіх вачах тут жа загарэлася самая сквапная, журналісцкая, цікаўнасць, бо мой сябар уздыхнуў: «Ну, няхай Алена пра гэта піша. Я бачу, ёй вельмі цікава...»

А яно сапраўды ой як цікава было! Украінцы — тое зразумела: мяжа за некалькі дзесяткаў кіламетраў. Але адкуль палякі, калі да Польшчы — далей, чым да Мінска? Праўда, была рызыка сустрэцца з «палякамі», якіх на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі — процьма: пахрысцілі цябе ў касцёле «пры Польшчы», а потым прыйшла новая, савецкая, улада запісваць: ага, católік — значыць, паляк. І дзеці твае, адпаведна, палякі. Усяго і гонару, а па-польску і двух слоў не ведаеш, дый з «гістарычнай радзімай» ніякай сувязі: адкуль, калі нават прашчуры тут, на Беларусі, жылі... Варта было тады ехаць за свет, калі ў роднай вёсцы Стасяў больш, чым Іванаў, і кожны другі па пашпарту — «паляк»...

Пакуль дабіраліся ў тое Замошша, усе гэтыя сумненні выказала ўслых супрацоўніку краязнаўчага музея, які падахвоціўся мяне суправаджаць. Ён мяне адразу супакоіў: аказваецца, палякі прыйшлі сюды даўно, задоўга да Пілсудскага. У XVIII — XIX стагоддзях ішлі ў гэтыя мясціны лесасекі з Мазовіі — мазуры. Лес высякаўся, а ў Польшчу яны так і не вярталіся, будаваліся на месцы: на Палессі, на Валыні. Зберагалі сваю культуру, веру, звычаі, мову. У некаторых месцах, як, напрыклад, у Замошшы, зберaглі і дагэтуль. У чым мне і належала пераканацца.

Ліў дождж, і ў Замошшы — маленькай вёсачцы з дзесяткам хат (жыхары вельмі крыўдзяцца, калі іх паселішча называюць хутарам) было вельмі гразка і на вуліцы — ні душы. Але нам усё ж пашанцавала: дзядзька корпаўся ў агародзе, збіраў вымытую дажджом бульбу. На пытанне, дзе жыве самы стары жыхар, жвава паказаў на бліжэйшую хату: «Да Марылі Маркевічавай зайдзіце. Ёй восемдзесят ужо. То цётка мая...»

...Ах, бабка Марыля! Я яшчэ доўга буду вас успамінаць. Як жа вы падобныя на маю бабку Амілю, якую я любіла, пэўна, больш за ўсіх на свеце. Той жа пасечаны зморшчынамі ласкавы твар, такія ж вузлаватыя спрацаваныя рукі, такія ж яркія сінія вочы (я добра ведаю, што такія яны ў вас ад нявыплаканых слёз). І тыя ж, бабчыны словы, якія, думала, ужо ніколі ў жыцці не пачую: «дочачка», «любачка». Дзякуй вам за іх, бабка Марыля. Дай вам Бог здароўя!..

Марыя Іосіфаўна пацвердзіла версію краязнаўцаў: так, яна нарадзілася ў 1918-м, але ў Замошшы жылі і дзяды, і прадзеды, і ўсе лічылі сябе палякамі, і пра гэта ніколі не забываліся. У гэтых мясцінах былі дзве вялікія польскія вёскі — Замошша ды Белае Возера. У касцёле маліліся, сватоў толькі ў сваю вёску ці да суседзяў засылалі спрадвеку. Размаўлялі толькі на мове прадзедаў, тых мазураў. Праўда, калі ішлі ў суседнюю Бастынь, на мясцовым дыялекце гаварылі, але паміж сабой — толькі па-польску. «А вёска была, ой вёска! Жыць — не ўміраць было! І там хаты, і там хаты! А ўжо сады якія! А моладзі... Тры гарманісты на сяло было. Школа польская. Настаўніцу ажно з Варшавы прыслалі. Як успомню, што за хараство было — душа баліць». Бабуля замаўкае, нібы хоча ўспомніць яшчэ нешта харошае з далёкай маладосці. Але лёс выпаў такі, што ўспамінаў тых горкіх нашмат больш, чым радасных...

Пасля ўз'яднання Беларусі ў 39-м замошанскія палякі не паспелі толкам зразумець, што яна для іх такое — новая ўлада... Школа польская, вядома, была зачынена, хлопцаў пабралі ў савецкае войска... Але тут пачалася вайна, і разбірацца ўжо не было калі...

Фашысты спалілі Замошша і Белае Возера. Спалілі метадычна і запланавана: у лясах было нямала партызан, якія маглі знайсці харч і прытулак у палякаў. З жыхарамі яны, праўда, абышліся надзіва гуманна: іх вывезлі ў Бастынь. «Казалі нават: бярыце з сабой што захочаце. Але хто тут асмеліцца пайсці і ўзяць. У чым стаялі, у тым і пайшлі. У Белым Возеры і так чалавек дзесяць застрэлілі...»

А з Бастыні добра было відаць, як палала Замошша. Чуваць нават было, як стагналі ў полымі хаты. А Белае Возера, якое далей, за лесам, паведамляла аб сваёй гібелі яркімі водбліскамі ў халодным студзеньскім небе... Не, яны не плакалі, не галасілі. Яны, сабраўшыся разам, прыціснуўшыся адзін да аднаго, глядзелі, як гіне ў полымі іх востраў. Маленькі польскі востраў у вялізным моры Палесся.

Вёскі Белае Возера сягоння няма. Усе жыхары, што засталіся жывымі, паехалі пасля вызвалення ў Польшчу. Паехалі і многія з Замошша. Марыля Маркевіч засталася: трое дзетак малых было, дый, муж, Людвік, недзе на фронце быў, яго вырашыла дачакацца. Зрэшты, можа і не гэта галоўнае. «Усюды цяжка было. Дык мы і падумалі: ужо як паміраць — толькі тут паміраць, а калі Бог жыцця дасць — тут і жыць будзем». Іх набралася нямнога, хто вырашыў памерці тут. Усяго дзевяць сем'яў. Але сённяшняе Замошша значыць для іх тое самае, што і да вайны. І яны вельмі крыўдзяцца, калі на іх вёску гавораць: хутар...

Раней тыя, што з'ехалі ў Польшчу, пісалі лісты, нават у госці прыязджалі. Цяпер усё глуха: большасць тых, хто жыў у вёсках, паўміралі, а іх дзеці — палякі ў Польшчы — і якая ім справа да невялікай польскай вёсачкі недзе на Беларусі...

Дый калі б і былі тыя пісьмы — у Замошшы няма надта каму іх чытаць — адны старыя засталіся. Самы маладзейшы, пэўна, у вёсцы — сын бабкі Марылі, Тадэк, якому хутка 50. Не сустрэў чалавек у жыцці сваёй палавіны, вось і жыве з маці. А калі б ажаніўся, то ўжо напэўна з'ехаў бы з хутара, як астатнія браты ды сёстры...

У Замошшы дагэтуль усе гавораць па-польску. Бабка Марыля, каб я яе зразумела, дадавала і палескія, і беларускія, і рускія слоўцы ў сваю гаворку. Але часам забывалася і выдавала на роднай мове цэлыя фразы... І дзецям усім польскія імёны падавала: Крыся, Ка́раль, Стэфан, Юзаф... Але ўнукі ўжо — напалову толькі палякі. Дый дзеці, тыя, што па свеце раз'ехаліся, толькі дома і ўспомняць, як гэта маці з імі гаварыла, і то не заўсёды. Так што таго вострава, які яны так хацелі зберагчы, калі прыйшлі на папялішча, хутка зусім не стане. На гэты раз ужо, пэўна, назаўсёды.

Сюды будуць прыязджаць людзі, магчыма, хтосьці нават паселіцца тут. Мясціны сапраўды, як тая бабуля казала, — «жыць — не ўміраць». Надзіва сухі для Палесся лес, у якім поўна грыбоў, «мохі», дзе ўсё чырвона ад журавін, за якімі і цяпер едуць, «і з Мінска, і з Пінска» (балазе, радыяцыі няма). Балоты, на якіх можна касіць самае смачнае сена... Нехта, можа, і будзе тут жыць. Але не нашчадкі тых, што сяліліся калісьці і думалі: навек.

Я не гаварыла аб гэтым услых, але адчувала, што Марыя Іосіфаўна ведае гэта, жыве гэтым, пакутуе ад гэтага, як і ўсе яе аднавяскоўцы-супляменнікі, «апошнія з магікан»...

І таму хацелася хоць на развітанне пацешыць старую. І, здаецца, удалося. Адыходзячы, я без запінкі вымавіла: «Бардзо дзенькуе, пані, до відзэня!» Бабуля ўсміхнулася і па-каталіцку перахрысціла нас...

А потым мы заехалі на Белае Возера. Возера, якое дало назву неіснуючай ужо вёсцы, ціхае і раўнюткае, як люстэрка сярод лесу. Прыгожае, падобнае на Свіцязь. Аб тым, што на яго беразе была вёска, сведчыць толькі помнік, які ўстанавілі зусім нядаўна. Ды яшчэ — скручаная старая яблыня, якую калісьці руплівы гаспадар-паляк пасадзіў ля свайго дыхтоўнага дома, складзенага, здавалася, на сто гадоў...

Яшчэ адна памерлая вёска. А там, за недалёкім лесам, — вёска, якая памірае...

Я не ведаю, як пра гэта пісаць. Я шмат бачыла такіх вёсак. Але да гэтага нельга прывыкнуць. Гэта — як стрэмка ў сэрцы. І яна ўвесь час ные, не суціхаецца. І яе ніяк не выцягнеш адтуль: з кожным разам яна залазіць усё глыбей і глыбей.

Вось і цяпер кальнула Замошша. Вёска, якой амаль няма...

Можа, боль крыху адляжа, калі даведаюся, што Караль Маркевіч або нехта з яго братоў ці сясцёр разам з сям'ёй прыехаў жыць у бацькоўскую хату. Але гэта — наўрад ці...

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**



# ПАМІЖ... БЕЛАРУСК...

**Заканчваючы сёння друкаваць падборку матэрыялаў з «выязной прыёмнай» «Звязды» ў Лунінецкім раёне і падводзячы, такім чынам, рысу, мы ўсё ж не можам не падзяліцца некаторымі назіраннямі, якія засталіся ў нас пасля сустрэч на Палессі.**

**Прыемна, што да нас прыходзілі не толькі чытачы «Звязды». Напярэдадні пра сустрэчы неаднаразова паведамляла раённая газета «Лунінецкія навіны», за што мясцовым журналістам асобны дзякуй. Многія грамадзяне нават не ўяўлялі, што такое «выязная прыёмная», а, даведаўшыся пра сутнасць мерапрыемства, былі вельмі рады. Нас, журналістаў, у глыбінцы па-ранейшаму ўспрымаюць як апошнюю інстанцыю: пераважна звяртаюцца тыя грамадзяне, якія ўжо абабілі нямала парогаў і пабачылі безліч чыноўніцкіх кабінетаў.**

## БЕЗ ВАДЫ І ЦЯП...

Калі на вашым двары стаіць уласны калодзезь ці калонка, а ў хаце маецца печ ці грубка, то пэўная частка жыхароў Лунінеччыны (прынамсі, як і іншых раёнаў) можа шчыра пазайздросціць вам. Бо наяўнасць вады і цяпла ў вашым доме залежыць выключна ад вас, а не ад нейкага там «дзядзькі».

Што ж рабіць тым грамадзянам, у якіх гэткай «раскошы» няма ці яна бывае толькі па вялікіх святах, хоць яны і выбралі, здаецца, дасягненне цывілізацыі — шматпавярхоўкі з водаправодам і цэнтральным ацяпленнем? Так, застаецца толькі зайздросціць і скардзіцца, у тым ліку і нам, журналістам.

Як засведчыла «выязная прыёмная» праблемы з цяплом і вадой існуюць літаральна ва ўсіх населеных пунктах, дзе ёсць водаправод і цэнтральнае ацяпленне. А гэта не толькі Лунінец, Мікашэвічы, але і некаторыя вёскі. Прычым скаргі паўсюдна аналагічныя. Нездаволенасць і раздражнёнасць людзей халоднымі батарэямі растуць прапарцыянальна таму, як апускаецца слупок тэрмометра. Яшчэ больш турбуе становішча з вадой. Колер яе ў некаторых месцах нагадвае добрую гарбату. Праўда, па смаку гэта хутчэй настой іржавых цвікоў. Такім чынам, праблема патрабуе асобнага расследавання.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас апошняга наведвання раёнаў радыеактыўнага забруджання вызначыў некалькі прыярытэтных праблем, якія ў бліжэйшыя два-тры гады трэба вырашыць у першую чаргу. Сярод іншых былі названы газіфікацыя і водазабеспячэнне. Наколькі аператыўна яны будуць вырашацца, будзе залежаць, мабыць, не ад жадання, а ад фінансавання.

Але на Лунінеччыне ўжо сёння ў лепшым становішчы аказаліся жыхары райцэнтра. Як пе-





### «ВЫЯЗНЫ ПЫТАЛЬНІК»

## СТАЖ ЗНАЧЭННЕ МАЕ. АЛЕ...

***Чаму пенсіянеры, якія адпрацавалі 35 і 5 гадоў, атрымліваюць аднолькавыя пенсіі?***

**ДУНЧЫК Надзея Васільеўна.**

Як патлумачылі нам у Міністэрстве сацыяльнай абароны, цяперашняе пенсійнае заканадаўства прадугледжвае прынцып дыферэнцыяцыі — залежнасць памеру пенсіі ад працягласці стажу і велічыні заробку да выхаду на пенсію. Так, за 20 гадоў стажу ў жанчын і 25 гадоў — у мужчын пенсія ўстанаўліваецца ў памеры 55 працэнтаў ад заробку. За кожны год работы звыш гэтага стажу памер пенсіі павялічваецца на 1 працэнт заробку, але не менш чым на 1 працэнт мінімальнага памеру пенсіі. Пры гэтым для разліку пенсіі ўлічваецца не больш як 75 працэнтаў заробку. Што да асоб, якія не выпрацавалі патрэбны для прызначэння поўнай працоўнай пенсіі тэрмін (20 гадоў — для жанчын і 25 гадоў — для мужчын), то ім прызначаецца пенсія па ўзросту пры няпоўным стажы ў залежнасці ад колькасці адпрацаваных гадоў.

З усяго сказанага вышэй вынікае, што пенсіянерам са стажам 35 і 5 гадоў абавязкова будуць налічаны розныя пенсіі. Аднак тут трэба мець на ўвазе дзве акалічнасці. Па-першае, нельга забывацца, што апроч працягласці стажу на памер пенсіі ўплывае таксама заробак пенсіянера. І па-другое: розніца ў памерах пенсій можа падацца не такой адчувальнай яшчэ і ў тым выпадку, калі пенсіянер з меншым стажам мае права на пэўны від надбавак — як удзельнік і інвалід вайны, працаўнік тылу і г. д.

## СПІС 1 І СПІС 2 — РЭЧЫ РОЗНЫЯ...

***Пасля выхаду на пенсію па Спісу № 2 працягвала працаваць. Чаму зараз у мяне няма ніякіх даплат?***

**ЛАБКО Таццяна Барысаўна.**

Сапраўды, у якасці кампенсацыі за работу з асаблівымі ўмовамі заканадаўства дае права на датэрміновы выхад на пенсію. Адпаведна, асобы, занятыя на работах з цяжкімі ўмовамі (калі мужчына адпрацаваў у такіх умовах не менш як 12,5 года, а жанчына — не менш за 10 гадоў) могуць выйсці на пенсію на 5 гадоў раней па Спісу № 2. Асобы, якія працавалі ў асабліва цяжкіх і асабліва шкодных умовах (але не менш як 10 гадоў для мужчын і 7,5 года — для жанчын) маюць права выйсці на пенсію на 10 гадоў раней па Спісу № 1. Цяпер наконт уплыву працягласці працы ў асаблівых умовах на памер пенсіі. Грамадзянін, стаж работы якога перавышае неабходны для прызначэння датэрміновай пенсіі па Спісу №1, мае права на павелічэнне памеру пенсіі на 1 працэнт за кожны поўны год працы звыш усталяванага тэрміну. Аднак, паводле цяперашняга заканадаўства, на пенсіянераў па Спісу № 2 гэтае правіла не распаўсюджваецца.

## ВОДПУСК ПА ДАМОЎЛЕНАСЦІ

***На які тэрмін можна ўзяць водпуск за свой кошт?***

**САХОН Сяргей.**

Як паведамілі ў юрыдычным аддзеле Федэрацыі прафсаюзаў, працоўным заканадаўствам не вызначаны якія-небудзь «рамкі» працягласці водпуску без захавання зарплаты. Тэрмін такога водпуску залежыць ад узаемнай дамоўленасці паміж работнікам і наймальнікам.

## КРЭДЫТ І КАМПЕНСАЦЫЯ — ПА ЧАРЗЕ?

***Якія ўмовы крэдытавання будаўніцтва жылля для маладых сем'яў у вёсцы? Калі, як і якія ўклады будуць кампенсавацца?***

**КАВАЛЕЦ Таццяна Іванаўна.**

У маладой сям'і, якая вырашыла будавацца ў сельскай мясцовасці, ёсць адразу два варыянты. Па-першае, як і любая маладая сям'я, вашы дзеці могуць разлічваць на «маладзёжны» крэдыт — згодна з яго ўмовамі, крэдытуецца будаўніцтва 20 квадратных метраў жылплошчы на кожнага чалавека, але сам крэдыт не павінен перавышаць 90 працэнтаў ад кошту дома або кватэры. Па-другое, калі сям'я жыве і працуе менавіта ў вёсцы, яна можа атрымаць «сельскі» будаўнічы крэдыт — тут крэдытуецца ўжо па 30 квадратных метраў на кожнага чалавека, але зноў-такі агульная сума крэдыту не перавышае 90 працэнтаў ад кошту дома або кватэры. Умова і ў тым, і ў другім выпадку адна — маладая сям'я павінна мець патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і стаяць на чарзе.

# …Ж БАЛОТ …СКАЙ ЗЯМЛІ

**Склалася таксама ўражанне, што на Лунінеччыне ўважліва ставяцца да любой дэлегацыі з-за межаў раёна. Мінулі тыя часы, калі чарнобыльскія раёны былі месцам паломніцтва не толькі навукоўцаў, але і чыноўнікаў рознага рангу. Цяпер госці тут сталі больш рэдкімі, але адначасова і больш каштоўнымі. Таму вельмі адчуваецца, што людзям, якія лічаць сябе забытымі і ў нечым абдзеленымі, хочацца даць волю пачуццям, выгаварыцца, вобразна кажучы, проста «паплакацца» на цяжкае жыццё, на астранамічныя цэны, на загубленае здароўе, на адсутнасць звычайнай чалавечай увагі. Хаця кожны паляшук разумее сутнасць сённяшніх праблем, бачыць карані крызісу, і шматлікія пытанні — гэта не што іншае, як ціхі, схаваны пратэст супраць такога становішча.**

## …ПЛА — НЕ ЖЫЦЦЁ

…раканала нас кіраўніцтва раёна, напярэдадні навагодніх святаў тут плануюць здаць першую чаргу новага вадазабора. Яго магутнасць амаль у два разы перавышае сённяшнюю. Разам з гэтым уводзіцца і новая сістэма ачысткі вады. Аднак трэба заўважыць, што гэта яшчэ не вырашэнне праблемы. Гэтыя намаганні могуць аказацца марнымі, паколькі якасць вады моцна зніжаецца пры перадачы яе праз водаправодныя трубы, у якіх за доўгія гады эксплуатацыі нарос тоўсты слой жалеза і шлакаў. Камунальшчыкі спрабуюць ачысціць гэты бруд, але гэта пакуль не дае значнага эфекту.

Аналагічная сітуацыя назіраецца і ў Міжлессі, дзе водаправод забяспечвае жыхароў трохпавярховак, якія пераважаюць у вёсцы. Тут таксама нядаўна ўстанавілі новую станцыю абезжалезвання, але канцэнтрацыя мікрачасціц у вадзе амаль не зменшылася. Зноў жа па прычыне старых і забруджаных труб. Іх спрабуюць ачысціць, але вяскоўцы патрабуюць чыстую ваду ўжо сёння і зараз. Яны не давяраюць абяцанням камунальшчыкаў, паводле якіх якасць вады пасля «прагонкі» труб палепшыцца.



Складанае становішча захоўваецца і ў Мікашэвічах. Мінулай вясной тут адбыўся прарыў на водаправодзе, і, пакуль яго рамантавалі, у трубы трапіў не толькі бяскрыўдны пясочак. З кранаў пайшлі нават (прабачце за натуралізм) чарвякі. Пазней у мясцовых камунальшчыкаў не стала хлору для абеззаражвання, з'явіўся ён толькі напярэдадні нашага прыезду. Нягледзячы на прыярытэтнасць праблемы, аб'яўленую на самым высокім дзяржаўным узроўні, жыхарам Мікашэвіч, мабыць, прыйдзецца абзавесціся бытавымі фільтрамі і мірыцца з такім становішчам яшчэ некалькі гадоў. Ва ўсякім разе, у райвыканкаме нам паведамілі, што толькі ў наступным годзе будзе складзена праектна-каштарысная дакументацыя на рэканструкцыю вадазабора ў рабочым пасёлку, а сама рэканструкцыя пачнецца не раней 2000 года. Калі закончыцца — вядома хіба толькі Усявышняму…

З ацяпленнем праблема не такая шматпланавая, як з водазабеспячэннем. Пэўная асаблівасць ёсць хіба толькі ў Міжлессі. Жыхары вёскі, якія, зразумела, маюць хатнюю гаспадарку, часта для гаспадарчых патрэб спускаюць гарачую ваду з батарэй ацяплення. Ім здаецца, што вядро-другое шкоды ніякай не зробіць, але ў выніку сістэма аказваецца запаветранай, псуецца абсталяванне, зніжаецца тэмпература вады. У выніку гэтага з'яўляюцца прэтэнзіі да камунальшчыкаў, хаця кожны разумее, што сам сячэ сук, на якім сядзіць.

У астатнім жа насельнікі шматпавярховак знаходзяцца ў такім жа становішчы, як і жыхары іншых гарадоў і пасёлкаў Беларусі. Пры абмежаваных рэсурсах энерганосьбітаў іх эканомія ператварылася ў справу дзяржаўнай важнасці. Склалася нават становішча, калі без асобнага загаду ці дазволу ніхто сам не адважыцца запаліць у кацельні. А такая практыка нярэдка прыводзіць да таго, што эканомія адбываецца на здароўі людзей. Але гэта ўжо праблема не толькі асобна ўзятага раёна.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



І наконт кампенсацыі ўкладаў. У ААБ «Беларусбанк» нам паведамілі наступную інфармацыю.

У дадзены момант кампенсацыя на тэрміновыя ўклады і аблігацыі 1990 года ўжо налічана, але выплата грошай пакуль пачалася толькі асобным катэгорыям грамадзян — асобам, якія дасягнулі 75-гадовага ўзросту; узнагароджаным ордэнамі і медалямі за беззаганную вайсковую службу ў гады Вялікай Айчыннай вайны і за самаадданую працу ў тыле; «блакаднікам», а таксама не ўступіўшым у новы шлюб жонкам ваеннаслужачых, якія загінулі пры выкананні сваіх вайсковых абавязкаў. Усім астатнім пакуль можна хіба што параіць зайсці ў бліжэйшае аддзяленне «Беларусбанка», пацікавіцца сумай налічанай кампенсацыі і аформіць адпаведны сертыфікат па гэтую суму.

**«Пытальнік» падрыхтаваў Сяргей ГРЫБ.**

# ВЫЯЗНАЯ ПРЫЁМНАЯ

## ЗАКОН НЕАБХОДНА ВЫКОНВАЦЬ

На сустрэчах з жыхарамі Лунінеччыны выявілася, што многія праблемы ўзнікаюць ад нежадання людзей усвядоміць новыя рэаліі жыцця і прыняць прадыктаваныя імі законы.

Напрыклад, жыхарка Міжлесся Ж. выказала прэтэнзіі да старшыні сельскага Савета І. Сідуна, які быццам бы не хоча даваць пляц для яе дачкі. Усім выдзяляе соткі, а дачцэ не хоча адмераць.

А затым высветлілася, што жанчына разам з сям'ёй вярнулася з Расіі. Вярнулася ў мясціны, дзе нарадзілася і жыла. Тут ёй і далі жыллё. Здавалася б, усё нармальна, жыццё ідзе сваім парадкам. Адзін сын адслужыў у войску, а другі яшчэ служыць. Толькі вось Ж., як і яе сыны, не з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі. І жанчыне цяжка зразумець, чаму ў яе няма тых правоў, якія ёсць у яе аднавяскоўцаў. Хаця мясцовыя ўлады, калі гаварыць шчыра, на факт адсутнасці грамадзянства часцей увогуле заплюшчваюць вочы.

Жанчына мае прапіску, працу і жыллё, але грамадзянства браць не хоча.

— Чаму гэта я павінна плаціць 15 долараў нейкай там пошліны? — кажа яна. — Яшчэ чаго захацелі! Я прыехала да сябе, дадому.

Сапраўды, просты чалавек яшчэ не можа ўцяміць, што Расія і Беларусь ужо даўно не адна дзяржава, што ёсць Закон аб грамадзянстве і яго неабходна выконваць. На жаль, гэты закон ігнаруе не толькі чалавек, якому даволі цяжка разабрацца ва ўсіх яго тонкасцях, але і ўлада: сыноў жа жанчыны, грамадзян Расіі, прызвалі ў войска.

— Як у арміі служыць, то грамадзяне, — абураецца маці, — а як што папросіш — чужыя.

І ўсё ж я паўтаруся. Улада ў Лунінецкім раёне вельмі ліберальная, і людзей, якія вяртаюцца на радзіму, прымае і дапамагае. Доказам гэтаму другі прыклад. Пенсіянерка Р. выказала прэтэнзіі да райвыканкама, які не хоча выдаць дакументы на хату, дзе яна жыве. Са слоў выходзіла, што мясцовыя бюракраты крыўдзяць яе, старую, без усякай прычыны. Калі ж я перагаварыў з пенсіянеркай і яе нявесткай, то вырысавалася наступная карціна.

Пасля чарнобыльскай аварыі людзі маглі пакінуць забруджаныя раёны. Вось і Р. вырашыла прадаць хату ды паехаць да дзяцей у Расію. Хату ў жанчыны за 15 тыс. рублёў купіў райвыканкам. Грошы, па тым часе вялікія, пералічылі на рахунак Р. у ашчаднай касе. Напачатку пенсіянерка гаварыла, што іх яна не бачыла, але пасля настойлівых роспытаў паведаміла, што грошы з дапамогай нявесткі (запаўняла дакументы) зняла з рахунку, ад'язджаючы ў Расію.

Пасля ж распаду Саюза жанчына вярнулася на радзіму і… пасялілася ў сваёй былой хаце, якая знаходзіцца на балансе райвыканкама. Крыху агледзеўшыся, Р. пачала патрабаваць, каб ёй выдалі адпаведныя дакументы на валоданне хатай. А як быць з 15 тыс. рублёў? Здаровы сэнс падказвае, што грошы неабходна вярнуць і атрымаць законнае права на жыллё. Толькі дзе старая возьме сотні мільёнаў беларускіх рублёў? Менавіта ў такую суму выльюцца сёння тыя 15 тысяч.

Райвыканкам нічога не мае супраць пражывання пенсіянеркі ў хаце, але і перадаваць яе ў законнае карыстанне не спяшаецца. І, відавочна, мае рацыю.

Праблема грамадзянства ўздымалася і жыхарамі Лунінца. Але і тут не ўсё адназначна. Меркантыльнасць таксама мае месца. Чалавек прыкідвае, якое грамадзянства нясе яму найбольшую выгаду ў дадзены момант.

Маладая жанчына ўзрушана паведаміла, што яна прыехала з Украіны, а грамадзянства атрымаць цяжкавата, бо працэс даволі доўгі, а ў яе 16-гадовы сын, і яму трэба будзе вучыцца далей. Калі ж жанчыне растлумачылі, што яе сын можа вучыцца, але не пойдзе служыць у беларускае войска, як украінскі падданы, яна, як мне падалося, адказам засталася задаволеная. Перспектыва вызваліць сына ад казармы падалася ёй прывабнай.

З узнятых людзьмі пытанняў можна зрабіць выснову, што яны не хочуць прыкладваць вялікіх намаганняў для атрымання грамадзянства. Вось каб гэта рабілася аўтаматычна, тады іншая справа. Усё гэта выклікана, найперш, няведаннем законаў і грамадзянскай пасіўнасцю.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ЧЫМ МАГЛІ — ДАПАМАГЛІ

Як паказала практыка не толькі гэтай «выязной прыёмнай», але і ўсіх папярэдніх падобных мерапрыемстваў, дзесьці 90 працэнтаў пытанняў, з якімі грамадзяне звярталіся да нас, знаходзяцца ў кампетэнцыі мясцовых органаў улады і вырашаюцца непасрэдна на месцы. Якасць вады, аздараўленне, бульба, лекі — усё гэта для Лунінеччыны праблемы ці не агульныя. Разам з тым прагучала падчас сустрэч у раёне і вялікая колькасць канкрэтных, нават прыватных, пытанняў. Вядома, абысці іх увагай мы таксама не маглі.

Для жыхароў новага мікрараёна ў Мікашэвічах, бадай, самай вострай застаецца праблема будаўніцтва харчовай крамы. Праблема, заўважым, не новая — у свой час вырашыць яе паспрабавала за кошт уласных сродкаў ДП «Граніт», працаўнікі якога і пражываюць у мікрараёне. У будучай крамы ўжо з'явіліся сцены, дах і… Карацей кажучы, з-за фінансавых цяжкасцяў «Граніта» будаўніцтва было «замарожана». Зараз у раёне вывучаецца магчымасць перадачы недабудаванага аб'екта на баланс райспажыўсаюза. Аднак колькі будзе цягнуцца гэтая справа і чаму б зараз тут не арганізаваць прыстойны перасовачны гандаль? Пытанні па-ранейшаму без адказу. Між тым з-за адсутнасці крамы ў мікрараёне людзям даводзіцца штодня бегаць у бліжэйшую амаль за тры кіламетры — есці хочацца заўсёды.

У тых жа Мікашэвічах шмат пытанняў датычылася добраўпарадкавання пасёлка. Сапраўды, згодна з адпаведным планам, тут паступова рамантуюцца дарогі, прыводзіцца ў належны стан вулічнае асвятленне. Як быццам створана ў Мікашэвіцкім РВА жыллёва-камунальнай гаспадаркі і спецыяльнае звяно па адстрэлу бадзяжных жывёл. Але работа звяна паралізавана ўсяго адной «дробяззю» — няма патронаў. І калі яны з'явяцца — невядома.

Засталося хіба што развесці рукамі і ў адказ на пытанне, калі пачнуць падвозіць дзяцей з вёскі Малыя Чучавічы ў школу ў Вялікіх Чучавічах. Аказваецца, і ў калгасе імя Леніна, і ў леспрамгасе няма спецыяльна абсталяванага транспартнага сродку. Вынік? Школьнікі з М. Чучавіч павінны штодня карыстацца «пяшкарусам», у лепшым выпадку — рэйсавым аўтобусам. А наперадзе зіма.

Яшчэ адна «школьная» праблема паўстала зусім нечакана. Зноў-такі ў Мікашэвічах яе ўзняў работнік ДП «Граніт» Іван Андрайчук, дачка якога правучылася сем гадоў па-беларуску і раптам у восьмым класе атрымала рускамоўны падручнік па алгебры. «Толькі два тыдні, — расказваў абураны бацька, — у сям'і займаліся перакладам тэрмінаў. Якая ж тут вучоба?!» У Лунінецкім рана сітуацыю патлумачылі такім чынам: «Паколькі апошні раз падручнік Макарычава «Алгебра» для 8 класа на беларускай мове быў выдадзены ў 1994 годзе, а на рускай — у 1997-м, зараз раён не мае дастатковай колькасці беларускамоўных падручнікаў».

У сваю чаргу, у Міністэрстве адукацыі, куды звярнулася «Звязда», гэтую прычыну назвалі, мякка кажучы, недарэчнай і дадалі, што калі пачала адчувацца праблема, мясцоваму рана трэба было «пашукаць» падручнікі ў суседніх раёнах, звярнуцца ў міністэрства…

Зрэшты, ёсць для жыхароў раёна і прыемныя навіны. У канцы мінулага тыдня мы атрымалі з Лунінца факсавае паведамленне, у якім райвыканкам падрабязна праінфармаваў нас, якія меры прыняты адносна тых пытанняў, што ўздымаліся людзьмі.

Так, нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў в. В. Чучавічы не адносіцца да зоны радыеактыўнага забруджвання і, адпаведна, сродкаў з дзяржбюджэту на харчаванне вучняў мясцовай школы сёлета выдзелена не было, пытанне часткова ўдалося вырашыць на абласным узроўні. Паводле распараджэння Брэсцкага аблвыканкама ад 1 кастрычніка, на харчаванне вучняў прадугледжваецца датацыя ў памеры 4 працэнтаў ад МЗП. Больш таннымі школьныя сняданкі павінны таксама зрабіць бульба і агародніна як з вучэбна-доследнага ўчастка, так і з гаспадарак раёна.

Як запэўнілі ўдзельнікаў «выязной прыёмнай» у райвыканкаме, зроблены рамонт дахаў у інтэрнаце ПМК-19. Адрамантавана цеплатраса дома № 21а ў Чучавічах. У саўгасе «Міжлесскі», дзе ў прыватным сектары па віне аграНамічнай службы гаспадаркі загінулі буракі, насельніцтву выдзелены караняплоды зыходзячы з сярэдняй ураджайнасці па саўгасу. Аўтапарку № 10 дадзена даручэнне распрацаваць і ў бліжэйшы час прадставіць на зацвярджэнне ў выканкам графік руху гарадскога транспарту з пачаткам работы ў 6 гадзін раніцы, а таксама наладзіць рэйс у 15.30 па маршруту «Чыгуначны вакзал — ліцэй».

…Чакаецца, што да канца лістапада будуць падсыпаны вуліца Герцэна ў Лунінцы і дарога ў в. М. Чучавічы. У гэты ж тэрмін у райцэнтры павінен скончыцца капітальны рамонт даху жылога дома № 8а па вуліцы Чырвонаармейскай. У лістападзе пачнецца капітальны рамонт з падводам інжынерных сетак да дома па вуліцы Чыгуначнай, 4. На 1999 год плануецца закласці ў мясцовы бюджэт сродкі на добраўпарадкаванне пад'язной дарогі да дач у раёне в. Вічын. Працягнецца рамонт дахаў дамоў у в. Міжлессе…

…Будзем спадзявацца?

**Сяргей ГРЫБ, Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ПЫТАЛЬНІК

### НЕ СПЯШАЙЦЕСЯ САМАСТОЙНА ПАД ЗЯМЛЮ

***Дарагая рэдакцыя, вырашылі напісаць вам невялікае пісьмо. Справа ў тым, што мы пачулі па радыё аб лячэбнай шахце ў Салігорску, што там лечаць ад астмы сардэчнікаў. Але мы не ведаем адраса той шахты. Дзе яна знаходзіцца і што трэба мець пры сабе? Просім даць адказ на нашы пытанні.***

**Браніслаў МАРЭЦКІ,** в. Дзяўгі;
**Віктар ТАРАСЕВІЧ,** в. Русакі Стаўбцоўскага раёна.

На жаль, мусім расчараваць нашых чытачоў — самастойна трапіць на лячэнне ў Рэспубліканскую спелеалячэбніцу немагчыма. У тым сэнсе, каб самому сабрацца і паехаць. Справа ў тым, што сваё заключэнне папярэдне павінны зрабіць адпаведныя спецыялісты-медыкі. У прыватнасці, загадам Міністэрства аховы здароўя абмежаваны ўзрост пацыентаў лячэбніцы — туды прымаюцца толькі хворыя ад 15 да 55 гадоў. Яшчэ адна прычына — шахты зараз закрыты на прафілактычны рамонт, які прадоўжыцца да 2 лістапада.

Якім жа чынам можна трапіць на лячэнне ў Рэспубліканскую спелеалячэбніцу? Усяго туды за год ажыццяўляецца 13 заездаў хворых, у кожным па 120 чалавек, курс лячэння доўжыцца 26 дзён, потым усіх пацыентаў адначасова выпісваюць. Са 120 пуцёвак 105 бясплатна размяркоўваецца па ўсіх абласных аддзелах аховы здароўя і Мінску (15 пуцёвак лячэбніца мае права рэалізоўваць на платнай аснове як беларусам, так і грамадзянам іншых краін СНД).

Кожная вобласць, такім чынам, атрымлівае на кожны заезд 10—15 пуцёвак. Калі вы жадаеце трапіць на такое лячэнне, трэба звярнуцца найперш да сваіх медыкаў па месцы жыхарства. Калі дазваляе ўзрост і няма ніякіх проціпаказанняў па стану здароўя, у вас, як кажуць, ёсць усе шанцы. Для тых, хто хоча набыць пуцёўку на платнай аснове, таксама нялішнім будзе папярэдне даслаць у лячэбніцу вынікі свайго абследавання. А раптам вам яно не патрэбна, гэтае лячэнне? Тэлефон галоўнага ўрача спелеалячэбніцы ў Салігорску 3-79-85.

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.36 | 18.15 | 10.39 |
| Віцебск – | 7.28 | 18.03 | 10.35 |
| Магілёў – | 7.25 | 18.04 | 10.39 |
| Гомель – | 7.22 | 18.01 | 10.39 |
| Гродна – | 7.53 | 18.28 | 10.35 |
| Брэст – | 7.49 | 18.33 | 10.44 |

### МЕСЯЦ

***Апошняя квадра 12 кастрычніка.***

***З 1.03 — 25-ыя месяцавыя суткі.***

***З 19.33 Месяц — у сузор'і Дзевы.***

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Ганны, Усціны, Давыда, Андрэя, Канстанціна, Касьяна, Купрыяна.**
**К. Тэрэзы, Ядвігі.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні, 5 — 10 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 7 — 9, Гомелі — 8 — 10, Гродне і Мінску — 9 — 11, Брэсце — 10 — 12 градусаў вышэй нуля.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, пераважна без ападкаў, толькі 17-га на поўначы невялікі дождж. Вецер заходні і паўднёва-заходні, 5 — 10 м/сек., 17-га парывы да 12 — 14 м/сек. Тэмпература ўначы — 2 — 7, удзень 16-га — 8 — 13, 17-га — 11 — 16 градусаў цяпла.

***Прапалі дзве таксы, сукі, рыжая і чорная. Прашу патэлефанаваць у Баранавічы па тэл. 7-26-02. Узнагарода гарантавана.***

# ПЫТАЛЬНІК

## НЯХАЙ УНУК ВУЧЫЦЦА ДАЛЕЙ

**Прашу рэдакцыю патлумачыць мне наступнае. Пасля заканчэння адзінаццаці класаў мой унук паступіў у медвучылішча. У 1999 годзе ён павінен будзе прызвацца ў армію. Ці ёсць нейкія адтэрміноўкі тым, хто яшчэ не скончыў вучылішча?**

**Мікалай ПЛЯШКО,**
**в. Ліпск Ляхавіцкага раёна**

Трывогу чытача адносна далейшага лёсу ўнука нам дапамаглі развеяць у прэс-службе Міністэрства абароны. Так, згодна з Законам «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» (арт. 15-16), адтэрміноўка ад арміі прадастаўляецца для працягу адукацыі студэнтам дзённых аддзяленняў ВНУ да заканчэння вучобы, а студэнтам вячэрніх і завочных аддзяленняў — да заканчэння бягучага курса. Адтэрміноўку таксама атрымліваюць навучэнцы сярэдніх школ, прафтэхвучылішчаў і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, уключаючы вячэрняе і завочнае навучанне, да іх завяршэння. Такім чынам, пакуль унук будзе вучыцца ў вучылішчы, яго ў армію прызваць не павінны. Калі ён надумае вучыцца далей, на час экзаменаў у ВНУ ён таксама атрымае адтэрміноўку. Калі не здолее паступіць — пойдзе ў войска.

## ХТО ПАВІНЕН ВЫПЛАЦІЦЬ ДАПАМОГУ ПА ЧАСОВАЙ НЕПРАЦАЗДОЛЬНАСЦІ

***Мой муж, Лычкоўскі Сяргей Сямёнавіч, 8 чэрвеня гэтага года звольніўся з працы. 17 чэрвеня ён атрымаў цяжкую чэрапна-мазгавую траўму. Ён і зараз знаходзіцца ў бальніцы. На новае месца працы ён не ўладкаваўся. Ці павінны яму аплаціць бальнічны па старым месцы працы.***

**Ганна ЛЫЧКОЎСКАЯ,**
**в. Мацевічы Бярэзінскага раёна.**

Адказвае намеснік кіраўніка Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь І. Кароль:

«У адпаведнасці з пунктам 10 Палажэння аб парадку забеспячэння дапамогі па часовай непрацаздольнасці, што зацверджана пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30.07.97 г., абласныя і Мінскае гарадское ўпраўленні Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва могуць у парадку выключэння дазваляць у асобных выпадках выплату дапамог асобам, у якіх страта працаздольнасці з прычыны хваробы або калецтва працягам звыш месяца наступіла не пазней месячнага тэрміну пасля звальнення з работы па ўважлівай прычыне.

Такім чынам, з пытаннем аб выплаце дапамогі па часовай непрацаздольнасці вашаму мужу раім звярнуцца ў Камісію па назначэнню дапамог пры Мінскім абласным упраўленні фонду.

Адначасова паведамляем, што ў дадзеным выпадку хвораму выдаецца даведка аб непрацаздольнасці, якая абменьваецца на лісток непрацаздольнасці пасля прыняцця Камісіяй рашэння аб выплаце дапамогі.

Падставай для разгляду гэтага пісьма ў камісіі з'яўляецца хадайніцтва адміністрацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі па апошнім месцы работы з дадаткам неабходных дакументаў».

## УЗРОСТ СВЕДАК ДЛЯ ВЯСЕЛЛЯ ЗНАЧЭННЯ НЕ МАЕ

***Хутка ў мяне будзе вяселле. Я хацела б узяць у сведкі маю малодшую сястру. Але ёй ўсяго 16 гадоў. Ці дазваляецца нашым заканадаўствам прыцягваць у якасці сведак асоб, якія не дасягнулі 18-гадовага ўзросту?***

**Марына РУБАН,**
**п. Радашковічы.**

Як растлумачылі нам у адным са сталічных ЗАГСаў, у трэцяй главе Кодэкса аб шлюбе і сям'і РБ, якая рэгламентуе парадак і ўмовы заключэння шлюбу, нічога пра ўзрост сведак не гаворыцца. Больш таго, пакуль у рэспубліцы дзейнічае ранейшы кодэкс, удзел ва ўрачыстай цырымоніі сведак з боку нявесты ці жаніха неабавязковы і з'яўляецца хутчэй народнай традыцыяй. А вось у праекце новага Закона «Аб шлюбе і сям'і», які ў хуткім часе будзе разглядацца ў парламенце краіны, узрост сведак агаворваецца: імі змогуць стаць толькі грамадзяне, якім ужо споўнілася 18 гадоў.

## ШТО АБАВЯЗАНА ТЭХНІЧКА?

***Так атрымалася, што ў рэдакцыю адначасова трапілі адразу некалькі амаль аднолькавых пісьмаў ад тэхнічных работнікаў школ г. Мінска і Лагойскага раёна. У пісьмах — просьба патлумачыць, што, згодна са сваёй стаўкай, павінны выконваць школьныя тэхнічкі і, у прыватнасці, ці ўваходзіць у іх непасрэдныя абавязкі летні рамонт школы, замена на час адпачынку дворніка і вахцёра? Яшчэ адно пытанне: якім чынам павінна размяркоўвацца матэрыяльная дапамога?***

Як патлумачылі карэспандэнту «Звязды» ў Беларускім рэспубліканскім прафсаюзе работнікаў адукацыі і навукі, у функцыянальныя абавязкі тэхнічнага работніка ўваходзіць штодзённая двухразовая ўборка 500—600 квадратных метраў школьнай падлогі, прычым у лік гэтых «квадратаў» трапляюць таксама сцены, вокны і г. д. Апроч таго, трэба мець на ўвазе, што на працоўным месцы тэхнічка павінна знаходзіцца па 7 гадзін кожны дзень. Паводле калектыўных дагавораў практычна ўсіх навучальных устаноў, адміністрацыя можа прыцягваць тэхперсанал да дробнага рамонту памяшканняў. У той жа час замена дворніка або вахцёра ажыццяўляецца толькі са згоды самой тэхнічкі.

Цяпер наконт матэрыяльнай дапамогі. Зноў-такі яе размеркаванне вызначаецца канкрэтнай навучальнай установай. Аднак, як правіла, у першую чаргу дапамога выдаецца на пэўныя мэты (вяселле, пахаванне, складанае матэрыяльнае становішча сям'і, даплата да водпуску і г. д.) і толькі потым рэшткі гэтай дапамогі размяркоўваюць паміж астатнімі работнікамі. Умовы тут па сутнасці дзве: размеркаванне павінна адбывацца галосна і з абавязковым узгадненнем у прафкаме.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ЛАБАРАНТАМ У ШКОЛЕ АДУКАЦЫЯ НЕ ПАТРЭБНА

***Я працую лабарантам у сярэдняй школе, абслугоўваю кабінет фізікі. Хацелася б ведаць, колькі гадзін я павінен адпрацоўваць за тыдзень, ці можа адміністрацыя школы даручаць мне выконваць іншыя работы ў вучэбны час і ў час канікулаў, ці адыгрывае ролю адукацыя лабаранта пры налічэнні зарплаты?***

**У. Юшкевіч,**
**г. п. Жалудок.**

З просьбай адказаць на пастаўленыя пытанні мы звярнуліся ў Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі. Там патлумачылі наступнае:

У адпаведнасці з арт. 42 КЗаП РБ працягласць рабочага часу лабаранта кабінета фізікі сярэдняй школы складае 40 гадзін у тыдзень.

Работнік, які заключыў працоўны дагавор з наймальнікам, абавязаны выконваць работу па вызначанай адной ці некалькіх прафесіях, спецыяльнасцях або службах, якія адпавядаюць кваліфікацыі. Пры гэтым ён мае права не выконваць работы, не абумоўленыя працоўным дагаворам (па іншай прафесіі, спецыяльнасці, службе). Наймальнік не правамоцны патрабаваць выканання работ, не прадугледжаных працоўным дагаворам.

Адукацыя лабаранта на зарплату не ўплывае: да лабарантаў у сярэдніх школах патрабаванні да наяўнасці адукацыі не прадугледжваюцца, таму ўсім, незалежна ад яе, устаноўлены шосты разрад.

## ВІНШАВАННІ

*Дарагога* ***Аляксандра Іванавіча ЛІТВІНОВІЧА*** *шчыра віншуем з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя і дзякуем за ласку і дабрату.*

**Жонка, дзеці, унукі,**
**в. Хотынічы.**

*Дарагую, родную, любую* ***Святлану Рыгораўну ЛАЗБЕНЬ*** *з г. Калінкавічы віншуем з 50-годдзем і сярэбраным вяселлем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, добрага настрою.*

**Муж, дзеці.**

*Віншуем* ***Алёну СТАШЭЎСКУЮ*** *з в. Лясное. Жадаем здароўя, бадзёрасці, дабрыні, кахання, поспехаў у жыцці.*

**Родныя.**

***ВЫЖЫВАННЕ МОВЫ***

# ДЫСІДЭНТ

## БЕЛАРУСУ АДМОВІЛІ Ў ПРАВЕ ПІСАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

**По ўсім відаць, працэс пераходу беларускай дзяржавы на рускую мову выходзіць на фінішную прамую. Поспехі ў гэтай справе дасягнуты значныя. Хаця, вядома, здараюцца яшчэ прыкрыя выпадкі, калі «тутэйшыя» спрабуюць размаўляць на сваёй мове, нават пісаць на ёй і, што ўжо не лезе ні ў якія вароты, складаць на беларускай мове дзелавыя паперы. Знаходзяцца некаторыя — нічога ім не дакажаш. Кажуць, законы ёсць, не маеце права, як захачу, так і напішу. Як з такімі начальству дамовіцца? А ўладу ўжыць. Забараніць — і кропка. Толькі так.**

### СПАЧАТКУ БЫЛА ЗАЯВА

Усё пачалося з таго, што электрамеханік дзяржпрадпрыемства «Белаэранавігацыя» Уладзімір Плакса напісаў на імя дырэктара заяву на матэрыяльную дапамогу. На беларускай мове. Уладзімір ужо шэсць гадоў размаўляе і піша на беларускай мове, так што — крок лагічны. Яго непасрэдны начальнік Мікалай Іванюшчанка наклаў рэзалюцыю: «Уважаемый Плакса В.С. Перепишите на русском языке». Можа быць, Мікалаю Сцяпанавічу падалося, што падначалены замахваецца такім чынам на яго аўтарытэт, ці нават на сам святы інстытут дысцыпліны — мне невядома.

Далей падзеі развіваліся імкліва, тым больш, глеба была падрыхтавана. Яшчэ ў 1997 годзе намеснік дырэктара «Белаэранавігацыі» Ю. Кладаў на сходзе працоўнага калектыву забараніў Плаксу весці аператыўныя размовы і тэхдакументацыю на беларускай мове. Летась жа М. Іванюшчанка адмовіўся падпісаць заяву на матдапамогу, паколькі яна — па-беларуску. Уладзімір Плакса патэлефанаваў яму і папрасіў напісаць падставу адмовы непасрэдна на заяве: Іванюшчанка яе падпісаў.

Сёлета (гл. вышэй) гісторыя паўтарылася. Плакса звяртаецца да дырэктара «Белаэранавігацыі» І. Шыманца з просьбай ацаніць дзеянні Іванюшчанкі і Кладава. Сакратарка заяву прыняла, але рэгістраваць адмовілася: маўляў, унутраныя паперы ў нас не рэгіструюцца. Тройчы Плакса хадзіў да сакратаркі — выніку не было.

Уладзімір звярнуўся ў камісію па працоўных спрэчках. Тут вынік быў: спачатку заява згубілася, а потым Плаксу адмовілі ў разглядзе канфлікту, бо «адсутнічаюць непаразуменні паміж наймальнікам і работнікам» (Кладаў і Іванюшчанка — не наймальнікі).

Нарэшце, 24 мая б. г. Плакса атрымаў прамежкавую перамогу: М.Іванюшчанка дазволіў яму пісаць як па-руску, так і па-беларуску. Праўда, толькі заявы на матэрыяльную дапамогу.

У чэрвені Уладзімір зноў завітаў да сакратаркі дырэктара нагадаць пра сваю праблему і папярэдзіць, што плануе звярнуцца ў пракуратуру. Начальства адразу змагло вызваліцца ад сваёй напружанай адказнай працы, і Уладзіміра Плаксу дапусцілі ў кабінет. І. Шыманец і яго намеснік Ю. Кладаў цярпліва растлумачылі Уладзіміру, што ІСАО (Міжнародная арганізацыя грамадзянскай авіяцыі, куды Беларусь уваходзіць таксама) карыстаецца чатырма мовамі: англійскай, іспанскай, французскай і рускай — таму ў Беларусі гэта таксама абавязкова. Таму і ён, Уладзімір Плакса, павінен карыстацца рускай мовай (чаму не англійскай ці іспанскай, што было б лагічна, кіраўнікі не патлумачылі). Беларускую мову Уладзіміру парэкамендвалі для «курылкі» і прыбіральні (выдатна! цяпер мы ведаем месца беларускай мовы — яно там, дзе чым-небудзь патыхае). У выпадку ж, калі Плакса не прыслухаецца да парады старэйшых таварышаў, яму пастараюцца знайсці іншае месца працы. У канцы плённай размовы сп. Шыманец загадаў сп. Кладаву прадставіць спіс тых, хто незадаволены выкарыстаннем Плаксам беларускай мовы ў дзяржаўнай установе.

Пасля гэтага Уладзімір напісаў заяву ў пракуратуру.

### ШТО ГЛУХОМУ МУЗЫКА?

У Мінскай транспартнай пракуратуры заявай Плаксы займаўся малодшы саветнік юстыцыі А. Грыгор'еў. Сп. малодшы саветнік спаслаўся на міжнародныя стандарты ІСАО, арт. 28, 37 Чыкагскай канвенцыі аб міжнароднай грамадзянскай авіяцыі, згодна з якім Беларусь абавязуецца прадастаўляць аэранавігацыйныя сродкі і забяспечваць кіраванне паветраным рухам.

«З улікам вышэйвыкладзенага, — пісаў у адказе сп. Грыгор'еў, — патрабаванні адміністрацыі дзяржпрадпрыемства «Белаэранавігацыя» аб выкарыстанні Вамі рускай мовы толькі пры вядзенні тэхнічнай дакументацыі і аператыўных перамоў, з'яўляюцца абгрунтаванымі».

У ходзе праверкі пракуроры высветлілі, што Плакса ўвогуле з заявай аб аказанні матдапамогі да дырэктара не звяртаўся. Яшчэ Уладзіміру было паведамлена, што «факты не пацвердзіліся, падстаў для ўмяшання пракуратуры няма». Лагічна.

Такім чынам, першая ступень пройдзена: Уладзімір звяртаецца ў Беларускую транспартную пракуратуру. Як можна меркаваць з адказу намесніка беларускага транспартнага пракурора Л. Нікалаева, станоўчы зрух намеціўся: «Патрабаванне начальніка базы ЭРТОС Іванюшчанка М. С. перапісаць заяву Плаксы У. С. аб матэрыяльнай дапамозе да водпуску на рускай мове замест беларускай супярэчыць канстытуцыйна замацаванаму раўнапраўю абедзвюх моў, на што ўказана адміністрацыі...» Дзякуй Богу. Праўда, «падстаў для пракурорскага ўмяшання не ўстаноўлена» зноў.

І Плакса піша заяву ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Вынікі гэтага кроку мне пакуль невядомыя. Як запэўніў Уладзімір, ён гатовы прайсці ўвесь шлях да канца, яго стратэгічная мэта — даказаць, што беларус мае поўнае права размаўляць на роднай мове не толькі ў «курылцы» і прыбіральні, а і паўсюдна. І што для абароны гэтага цалкам зусім хопіць тых законаў, што ўжо прыняты. Ну што ж, мне падабаецца такое донкіхоцтва...

### «Я ШЧЫРА РАДЫ ЗА ВАШУ СЯМ'Ю...»

Не магу сказаць, што меў на ўвазе Іван Уладзіміравіч Шыманец, калі пісаў гэтыя словы жонцы Уладзіміра Плаксы — Вользе. Асабліва незразумелай здаецца другая частка сказа: «...дзе пануе спакой і павага». Даўно там спакою няма, бо ў барацьбу за правы мужа ўключылася і жонка. Яна таксама піша ва ўсе інстанцыі, ёй за мужа элементарна страшна: Вольга Канстанцінаўна вырасла ў краіне, дзе адмоўны вопыт шукання праўды перадаецца з пакалення ў пакаленне на генетычным узроўні.

Таму Вольга Плакса звярнулася да начальніка мужа і папрасіла даць тлумачэнні па моўнаму пытанню. Іван Уладзіміравіч іх даў, папярэдне папрасіўшы, трэба аддаць яму належнае, прабачэння за «непрадуманыя дзеянні сваіх падначаленых».

Што датычыць мовы, то дырэктар спаслаўся на Канстытуцыю РБ 1994 г. (са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі пазней), Закон РБ «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» 1990 г., а таксама на знаёмыя ўжо нам стандарты ІСАО. Іван Уладзіміравіч прывёў такія аргументы: усе краіны СНД рыхтуюць авіяспецыялістаў на рускай мове, уся дакументацыя, кіруючыя дакументы напісаны таксама на рускай мове, на ёй жа — авітэрміналогія. Прымяненне тэрміналогіі на беларускай мове можа прывесці да памылак і, урэшце, да парушэння бяспекі палётаў.

Моцны аргумент. Але не пераконвае, бо электрамеханік сувязі Уладзімір Плакса непасрэдна не ўдзельнічае ў кіраванні палётамі, ён не вядзе радыёперамоў з бартамі, якія знаходзяцца ў паветры і ажыццяўляюць узлёт ці пасадку.

На жаль, пагутарыць з Іванам Уладзіміравічам Шыманцом, пры ўсім старанні, не ўдалося. Першы тыдзень ён прымаў замежныя дэлегацыі, на другі — захварэў. Улічваючы вялікую занятасць дырэктара, прыйшлося абысціся яго адказам Вользе Плакса.

Як быццам, можна прыступаць да «разбору палётаў»?

### НАЇЎНЫЯ ПЫТАННІ

Неаднойчы ў артыкуле ўпаміналіся ІСАО, яго стандарты, Чыкагская канвенцыя ў тым сэнсе, што яны робяць нацыянальную мову практычна забароннай. Ці так гэта?

Артыкул 1-ы Чыкагскай канвенцыі ІСАО гаворыць аб тым, што кожная дзяржава валодае поўным і выключным суверэнітэтам над сваёй паветранай прасторай. Закон РБ «Аб асновах выкарыстання паветранай прасторы» з'яўляецца натуральным працягам арт. 1 Чыкагскай канвенцыі. Гэты закон прыняты ў 1993 годзе, і яго арт. 11 рэгламентуе мову радыёабмену: беларуская, руская альбо англійская. Ці ёсць супярэчнасць паміж міжнародным стандартам і законам Беларусі?

Рабочымі мовамі ІСАО, як ужо пісалася, з'яўляюцца англійская, французская, іспанская і руская. Значыць, на іх можна весці дакументацыю. Ці так гэта? Калі так, то на якой падставе забараняецца беларуская мова?

Стандарты ІСАО носяць рэкамендацыйны характар. Яны не датычаць вядзення ўнутранай дакументацыі. Служба, дзе працуе Уладзімір Плакса, не ўдзельнічае ў кіраванні паветраным рухам, моўныя стандарты ІСАО на яе не распаўсюджваюцца. Ці ведае аб гэтым кіраўніцтва «Белаэранавігацыі»?

Дакументаў, якія абавязваюць весці дакументацыю гэтай службы на мовах ІСАО, — няма.

З 30 чэрвеня 1997 года, калі закруцілася гэта гісторыя, да Уладзіміра Плаксы не прымяняліся меры дысцыплінарнага ўздзеяння за ўжыванне роднай мовы. Як тады зразумець логіку сп. Шыманца, калі ў адным выпадку ён піша, што руская мова абавязковая, а ў другім ніяк не рэагуе на яўнае парушэнне сваім падначаленым Плаксам загаду свайго намесніка?

### ЯКІЯ Ў НАС ЁСЦЬ ЗАКОНЫ І ПРА ШТО ТАМ ГАВОРЫЦЦА

А ў нас ёсць, калі ласка, Закон «Аб мовах» 90-га года са змяненнямі і дапаўненнямі, якія прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 чэрвеня 1998 года.

У прыватнасці, мяне там зацікавіў арт. 9: «Тэхнічная і праектная дакументацыя ў Рэспубліцы Беларусь рыхтуецца на беларускай або рускай мове, а з улікам прызначэння — на іншай». Заўважце: і на беларускай, і на рускай. Тады якая нам справа да таго, што ў авіятэрміналогіі прынята прымяняць рускую мову? Зрабіце дапаможнік, навучыце сваіх работнікаў іх роднай мове — закон абавязвае гэта зрабіць. Не верыце? Адсылаю да арт. 2: «Дзяржаўныя органы... прадпрыемствы... ствараюць грамадзянам Рэспублікі Беларусь неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі.»

А вось яшчэ цікавы артыкул 4: «Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў... прадпрыемстваў... павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў». Бачыце, павінны. А ці многа вы сустракалі такіх кіраўнікоў, якія валодаюць абедзвюма мовамі? Прашу прабачэння, але часта нават іх рускую мову без перакладчыка не зразумееш.

Паехалі далей. Вось арт. 5, дзе сказана, што заявы ад грамадзян прымаюцца на беларускай і рускай мове, што адмова іх прыняць цягне за сабою адказнасць (думаю, не вельмі цяжкую), — безумоўна, цікавы нам і гэты артыкул.

Ну і, нарэшце, арт. 6 «Абарона моў»: «Усякія прывілеі ці абмежаванне правоў асобы па моўных прыметах недапушчальнае. Публічная знявага, ганьбаванне дзяржаўных і іншых нацыянальных моў, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі, прапаведзь варожасці на моўнай глебе цягнуць устаноўленую законам адказнасць».

Што датычыць справы Уладзіміра Плаксы, то тут мы маем парушэнне ажно шасці артыкулаў Закона «Аб мовах», апрача таго — і гэта зусім не жарты — парушэнне адпаведных артыкулаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзе замацавана права Беларусаў на роўнае карыстанне абедзвюма мовамі. У святле гэтага пракурорскія заявы «аб адсутнасці падстаў» здаюцца, мякка кажучы, дзіўнымі. Ці заглядвалі таварышы з пракуратуры непасрэдна ў закон, які рэгламентуе моўную практыку? Можа быць, цяпер гэта не прынята, а дзейнічаюць нейкія невядомыя нам прынцыпы?

Я, верагодна, безнадзейна наіўны чалавек, бо лічу, што ніякіх іншых прынцыпаў, апрача прынцыпу закона, не існуе. Немагчыма, гаварыў Баратынскі, прымусіць чалавека перамяніць свае думкі, не прымусіўшы яго самога перамяніцца. Такое ўражанне, што многіх з нас зараз старанна мяняюць. Каб змяніць нашы думкі. Песімізм — вельмі прыдатная глеба. Праўда, не ўсе з гэтым абыякава пагаджаюцца.

Значыць, надзея застаецца.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*36,6°*

# ПАРАДЫ ДОКТАРА ВАКУЛІЧА

**Рэдка які чалавек хоць аднойчы не адчуваў непрыемных боляў у паясніцы. А іншы раз да гэтага ж далучаецца яшчэ і прастрэл у шыі, нясцерпны боль у тазасцегнавых суставах... Словам, цэлы «букет». Аднак, на думку многіх, ёсць надзейны паратунак — прагрэць хворае месца. Але ці заўсёды цяпло — на карысць? І наогул, што трэба рабіць, калі напаткала падобная немач? Пра гэта і многае іншае па шматлікіх просьбах чытачоў «Звязды» згадзіўся падзяліцца думкамі на старонках газеты вядомы спецыяліст па мануальнай тэрапіі Віктар Вакуліч, пра незвычайныя здольнасці якога ўжо расказвалася ў артыкуле «Гаючыя рукі» («Звязда» за 20 жніўня).**

— Найбольш частыя болі, звязаныя з радыкулітам, які ўзнікае па прычыне так званага «карэньчыка сіндрому», выкліканага выпаданнем, зрушэннем дыскаў пазваночніка, — адзначае Віктар Іванавіч.— А цяпер наконт лячэння з дапамогай цяпла. Дык вось, у пераважнай большасці такіх выпадкаў праграванне проціпаказана, асабліва так званае вільготнае цяпло (лазня, ванна, цёплыя сагравальныя кампрэсы). Любое цяпло выклікае ўзмоцнены прыток крыві. У выніку сасуды расшыраюцца і боль быццам бы адступае. Але варта спыніць праграванне, як сасуды пачынаюць звужацца і боль вяртаецца з падвоенай сілай. Дарэчы, гэтую асаблівасць яшчэ сотні гадоў таму заўважыў вядомы старажытны лекар Авіцэна, які лічыў, што вільготнае цяпло і чырвонае віно пры радыкулітах трэба абавязкова выключыць. У крайнім выпадку, на маю думку, можна парэкамендаваць сухое цяпло, для прыкладу, шкурку зайца на паясніцу, шарсцяную хустку і г. д. І абавязкова паўцвёрды ложак.

А што ж рабіць пры вострых болях? Трэба абавязкова зафіксаваць гэта месца з дапамогай тугой павязкі, падклаўшы туды кніжку ці яшчэ нешта з падручных сродкаў, і даставіць хворага ў лячэбную ўстанову або выклікаць на месца ўчастковага ўрача, ці яшчэ лепш — неўрапатолага. Толькі ўрач мае права прызначаць лекі. Гэта, што называецца, аксіёма. Бо самалячэнне ў такіх выпадках можа выклікаць цяжкія ўскладненні.

Вельмі распаўсюджаным захворваннем з'яўляецца астэахандроз — складаныя парушэнні абмену рэчываў у арганізме, якія прыводзіць да празмернага адкладання соляў у суставах. Дарэчы, гэта захворванне бывае ў розных людзей і ў розным узросце. Яно ўласціва як людзям састарэлым, так і маладым, нярэдка ад гэтага пакутуюць і малыя дзеці.

Як правіла, болі ў пазваночніку ўзнікаюць з прычыны празмерных нагрузак: пад'ёму цяжару, нязграбнага павароту тулава, розных цяжкіх работ — у полі, на дачы, а часта — і пры прастудных захворваннях (грып, ангіна і г. д.). Нездарма ў людзей, хворых на грып, адчуваецца моцны боль у суставах. І тут важна пазбегнуць рэўматоіднай атакі. Таму пры такіх захворваннях трэба выконваць усе рэкамендацыі ўрача, інакш потым бяды не абярэшся.

Цяпер што датычыцца так званай мануальнай тэрапіі. Апошнім часам газеты аж стракацяць ад шматлікіх аб'яў, дзе паведамляецца аб тым, што за пэўную плату спецыяліст па мануальнай тэрапіі гатовы паставіць на ногі любога. Як урач са шматгадовай практыкай менавіта ў галіне мануальнай тэрапіі, раю асцярожна падыходзіць да падобнай рэкламы. Па-першае, ніводзін урач не можа ўсіх вылечыць. Трэба абавязкова ведаць дыягназ, а дакладна вызначыць яго могуць толькі ў медыцынскай установе. Да таго ж, далёка не ўсе віды захворванняў удаецца вылечыць з дапамогай такога дзейснага спосабу, якім з'яўляецца мануальная тэрапія.

Ёсць і яшчэ адна прычына, па якой я вельмі асцярожна стаўлюся да такога роду аб'яў. Справа ў тым, што апошнім часам з'явілася нямала курсаў, дзе рыхтуюць розных «спецыялістаў», у тым ліку і па мануальнай тэрапіі. А як можна за некалькі заняткаў навучыць чалавека ўсім тонкасцям медыцыны? На гэта патрэбны гады напружанай вучобы і практыкі. Ужо некалькі разоў да мяне на прыём траплялі людзі, якія ледзь не сталі інвалідамі пасля некалькіх сеансаў у такога роду «спецыялістаў». І ўвогуле з хваробамі пазваночніка жартаваць нельга, а тым больш займацца самалячэннем. Там жа — мозг.

***Ад рэдакцыі. Паколькі ўсе публікацыі, звязаныя з Віктарам Іванавічам Вакулічам, выклікаюць шматлікія званкі і пісьмы ў рэдакцыю, таму паведамляем нумар яго тэлефона ў Мінску: 239-93-53.***

# На прызбе ў Алены



**Вітаю вас, шаноўныя! Вельмі прыемна было прачытаць у вашых лістах, што «пасяджэнне» «на прызбе» вы не забыліся і сустрэлі нашу рубрыку як вяртанне старога добрага сябра. Не менш прыемна адзначыць, што мая прапанова пры наступнай сустрэчы даць «п'янству бой» аказалася вельмі плённай. «На прызбу» пайшлі вашы прыпеўкі, вершы, жыццёвыя гісторыі «па тэме». Хацелася б змясціць іх усе, але, на жаль, газетная старонка не гумавая. Таму сёння — толькі частка дасланага вамі. Астатняе, мяркую, будзе выкарыстана ў іншых, «агульных», выпусках рубрыкі.**

**Такі «агульны» выпуск, планую, будзе ў наступны раз. Але не расслабляйцеся: гаспадыня заклікае ўжо зараз рыхтавацца да новай тэматычнай «прызбы». А тэму прапаную, ну, канешне ж, самую надзённую — крызіс! Ён, хоць, гавораць, і суседскі, а ўсё ж і нас закрануў адчувальна. Дасылайце «крызісныя» прыпеўкі, гісторыі, вершы. Аб адным прашу: давайце ўсё ж глядзець на цяжкасці з гумарам. Так жыць не толькі цікавей, а, глядзіш, ці не лягчэй.**

**А «для затраўкі» паслухайце адну гісторыю. Заходзіць мужык у кладоўку, чапляе пяцілітровы слоік алею, купленага жонкай падчас усеагульнай панікі. Паслізнуўшыся, падае. Падаючы, чапляе і высыпае на сябе муку, крупы, соль, закупленыя «ў запас»... Ляжыць у лужыне алею, увесь выпацканы, і гаворыць: «Божа, ну калі ж гэты голад нарэшце скончыцца?!»**

**Ну як, спадабалася? Упэўнена, у многіх з вас прыхавана нешта падобнае — смешнае і злабадзённае. Не палянуйцеся — дашліце ў рэдакцыю. Ударым па крызісу сілай здаровага гумару!**

**Як, дарэчы, ударым сёння па п'янству.**

**Чакаю допісаў!**

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## *«П'яныя гісторыі»*

**І. ІЎЧЫК, в. Граўжышкі, Ашмянскі раён:**

### Няўдалая рэпетыцыя

Як вядома, цяпер шматлікія вяскоўцы-пенсіянеры, мужчыны пераважна, рыхтуюць для сябе дамавіны загадзя. Дык вось як з гэтым было ў суседняй з нашай вёсцы.

Пенсіянер Ю., паважанага ўзросту, заказаў або сам зрабіў на такі непазбежны выпадак свой прытулак на «тым свеце». Зрабіў і рашыў яго «прымерыць» на сябе. Прыйшоў да яго якраз сусед-вясковец, у якога добры голас, ён заўсёды адлявае ў нас нябожчыкаў. Ю. прыняў яго цёпла, яны ўзялі па чарцы - другой і вырашылі «прарэпеціраваць» цырымонію адыходу Ю. у «свет іншы». Ю. лёг у дамавіну, а сусед (яго таксама звалі Ю.) пачаў співаць належныя для такога выпадку мелодыі. Гаспадар Ю. пад гукі гэтых «песнопений» задрамаў у дамавіне, потым і добра заснуў, ведама ж, выпіўшы. Якраз у гэты час вярнулася жонка гаспадара. Пачуўшы яшчэ на двары спевы, зніякавела, уляцела ў хату і ўсё гэта ўбачыла. Было ўсё: здранцвенне ад убачанага, і «адыход» пасля таго, як зразумела, што тут адбывалася. Было і гаспадару, і спеваку...

**Святлана СТРАКАЧ, Салігорск:**

### А пра жонак забыліся...

Некалі на ўсіх жыхароў нашай вёскі была агульная лазня. Але з цягам часу пабудова разбурылася, і вяскоўцам не было дзе памыцца.

Сустрэліся неяк сябры-суседзі Ціт з Ігнатам і пачалі жаліцца адзін аднаму аб тым, як дрэнна стала жыць без парылкі. Параіўшыся, мужчыны прынялі жыццёва важнае рашэнне: пабудаваць на дзве іхнія сям'і адну лазню. Сказалі — зрабілі. І вось на пачатку зімы пабудова была гатова.

У суботу пад вечар, напаліўшы добра лазню, Ціт з Ігнатам першымі рушылі парыцца, бо яшчэ раней яны дамовіліся са сваімі жонкамі аб тым, што выпрабоўваць парылку на якасць, як і належыць, пойдзе моцны пол. Пакуль мужчыны мыліся, жанчыны ў гэты час прыгатавалі смачную вячэру і ў дадатак паставілі на стол пляшку, каб потым разам «абмыць» новую лазню. Праз пэўны час, у хату з пылу з жару з'явіліся задаволеныя і чырвоныя як буракі гаспадары.. Харыта з Маняй не марудзячы адправіліся ў парылку, а гаспадары засталіся чакаць іх у хаце. Смачныя стравы, што стаялі на стале, казыталі насы, ды і пляшка не меней вабіла да сябе. Ціт з Ігнатам не ўтрымаліся і кульнулі па першай чарцы за цудоўную лазню, затым па другой — за сваё здароўе, а там ужо пайшло-паехала. Ціт схадзіў дамоў (балазе, жыў побач) і прынёс яшчэ адну бутэльку першаку, якую прыхавала яго Харыта для націрання ад радыкуліту. Калі сябры-суседзі апаражнілі другую бутэльку да апошняй кроплі, дык пра жонак яны ўжо не ўспаміналі. На сон пацягнула небаракаў пасля выпітага «гаручага».

А жонкі ў гэты час аказаліся ў пастцы, бо як толькі Харыта з Маняй зайшлі ў лазню, дык вясковыя хлапчукі-гарэзнікі, якія гулялі побач, узялі нейкі дрын дый падперлі дзверы лазні з вуліцы. Вядома ж, каб мужыкі не «прынялі на грудзі» лішку, дык своечасова спахапіліся б і вызвалілі б гаротніц-жонак з палону. Але... мы ж ведаем, у якім стане былі Ціт з Ігнатам...

Раніцай прыйшла да Мані кума, каб пазычыць солі. Бачыць, што Ігнат з Цітам ляжаць у сяброўскіх абдымках і храпуць. Разбудзіўшы гаспадара, кума запыталася: «Ігнат, а дзе твая жонка?» А заадно паведаміла, што чула, як у лазні нехта крычыць, быццам нейкія жанчыны лямантуюць. Ачомаўшыся, мужчыны толькі цяпер успомнілі пра жонак. Калі яны адчынілі дзверы і вызвалілі палонніц, у тых зуб на зуб не пападаў, бо за ноч лазня выстыла. А якую «прачуханку» атрымала моцная палавіна ад слабейшай — пра гэта ўжо іншая гаворка...

### «П'яныя» прыпеўкі

**Марыя ЦІМІНСКАЯ, в. Дзераўцы, Асіповіцкі раён:**

*Ну і снег, ну і снег,*
*Белая мяцеліца.*
*Чым бюджэт бы папаўнялі,*
*Калі б не гарэліца.*

**Мікола КУТАС, в. Ілья, Вілейскі раён:**

*Мой сусед умее жыць,*
*На гарэлку не глядзіць:*
*Вочы цічыльна закрывае —*
*Гэтак чарку і глытае.*

**Людміла ЮШЫНА, Гомель:**

*Прымака сабе прыняла,*
*Налавіла з ім варон:*
*Я гарэлку пахавала —*
*Ён папіў адэкалон.*

**Уладзімір СОЙКА, ст. Навасады, Барысаўскі раён:**

Алкаголіка прынёс
*Ка мне чорт у сваты.*
*На яго зірнула нос,*
*Ды ўцякаці з хаты.*

**Рыгор ЯРАШУК, в. Мурава, Пружанскі раён:**

*Мой міленькі захварэў,*
*Ляжыць, як калодка.*
*Цэлы дзень ён душу грэў*
*Беларускай «водкай».*

**Генадзь Манкевіч, Мазыр:**

*Жонка мужа пакарала,*
*З дому п'янага прагнала:*
*Самагонку жлукціў з кварты,*
*А на секс зусім не варты.*

**Ніна Захарэвіч, Паставы:**

*З вуснаў скаргі часта раўцца:*
*Вельмі бедна мы жывём!*
*А за што ж, мае вы людцы,*
*Кожны год актыўней п'ём?*

**Віталь Лапіцкі, Бабруйск:**

*Як зрабіў мой сват Ігнат*
*Самагонны апарат.*
*Ёсць і вынік у Ігната:*
*Хлеў згарэў, згарэла хата.*

## НА РЫБАЛКУ — ЗА СМЕРЦЮ

Трагедыі адбыліся на Прыпяці і Дняпры, дзе лавілі рыбу мазыранін А. Марозаў з дачкой Марынкай і жыхар Рэчыцы М. Садоўнікаў.

У першым і другім выпадку іхнія лодкі з-за неасцярожнасці рыбаловаў перакуліліся. Апошнія ў халоднай вадзе і намоклай вопратцы выплыць не змаглі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**



*Сядзіба*

# ПЕРАПІСКА З ЧЫТАЧАМІ

**Наталлі КОЎТУН, г. Мінск.**

Нашы ружы — культура цеплалюбівая. Нават невялікія, але штодзённыя маразы могуць падкасіць расліну. Да зімоўкі рыхтуюцца загадзя. У другой палове лета перапыняюць падкормкі пад корань. Асабліва азотам. Па лісцях такія падкормкі даваць не забараняецца. Карысна прышчыпнуць кропкі росту. А ў гэтым месяцы (кастрычніку) зняць усе будучыя бутоны. Яны ўжо не змогуць парадаваць нас сваім хараством. Сцяблiны, якія адыходзяць ад зямлі, акучыць на 15—30 см. А далей — укрыццё.

Выкарыстоўваць у асноўным не мокрыя матэрыялы — лясную ігліцу, тарфакрошку, лісце, лапнік сасны, драўляную пацяруху і г. д. У сухі дзень усё гэта насцілаем пад кустамі .... да 5 см. Сцябліны ружы акуратна адгінаем ад вертыкальнага становішча амаль на 90 градусаў. Прышпільваем нейкай рагацінай. Зверху робім насціл з палак і дошак (ён трымаецца не на ружах, а на спецыяльных калках). Зверху кладзём яшчэ лапнік і накрываем старой плёнкай ці рубероідам. Снег усё заваліць. Ля сцябла і ва усім ўкрыцці будзе ўмерана холадна, але не шкодна для ружаў. Вясной гэта ўкрыццё здымаем не адразу, а ў некалькі прыёмаў (вельмі шкодзяць апошнія лютыя маразы).

**Дачнікам Заслаўя, Мінскі раён.**

Поўсць пуховых трусоў лямчыцца ў камякі. Яна робіцца няякаснай. Паспрабуйце час ад часу браць у рукі грабянец і, бы цырульнік, расчэсваць звяркоў. Сам пух збіраць раз у два тыдні. Падапечнага ставім на нейкую падстаўку і абшчыпваем. Выстрыгаць нельга, бо адрастанне пуху стане праблематычным. Ды і холадна.

Здабываць пух можна і з дапамогай грабянца. Пачынаць са спінкі, бліжэй да кумпячкоў. Сілу прымяняць нельга. Калі дзе-небудзь зубчыкі чапляюцца, то падысці з іншага накірунку, займаць меншую плошчу.

Калі ж трэба знімаць усю поўсць, то прымяняць вострыя з тонкімі канцамі нажніцы. А пачынаць з радка, які робім уздоўж спінкі. На галоўцы і нагах пух не здабываюць, бо ён для пражы непрыдатны.

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.532. Індэкс 63850.
Зак. № 6058.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12